30 ЧЭРВЕНЯ 1999г. СЕРАДА

# НАВІНЫ

№72 (603) КОШТ СВАБОДНЫ




# Бензінавы кашмар

**Алег ГРУЗДЗІЛОВІЧ, Мікола ВАЙТОВІЧ**

**Аўтамабілісты Мінска вар'яцеюць: яшчэ ў суботу адначасова амаль на ўсіх запраўках знік бензін, і сітуацыя дагэтуль не палепшылася. У нядзелю людзі яшчэ ад'ездзілі на запасах паліва, але зараз ужо нават у самых прадбачлівых індыкатары бензабакаў набліжаюцца да нуля. Разам з бензінам знікаюць апошнія ілюзіі наконт таго, што цяперашнія ўлады здольныя калі-небудзь вырашыць праблему забеспячэння палівам у прынцыпе. Людзей на калёсах ахоплівае паніка: як зарабляць, як працаваць, як жыць у краіне, дзе няма элементарнага?**

Сітуацыя унікальная таму, што паліва няма фактычна на ўсіх запраўках — і на дзяржаўных, і на камерцыйных. Забяспечваюць бензінам «сваіх» толькі таксапаркі, гарадскія службы, хуткая дапамога, міліцыя. Канешне, ёсць бензін для «членавозаў», на якіх ездзяць прэзідэнт і яго-нае шматлікае атачэнне. Усе ж астатнія спажыўцы бензіну, якіх у нас дагэтуль ганебна называюць «аўтааматарамі», апынуліся ў стане жабракоў, якія чакаюць падачкі пад назвай А-95, А-92 ці хаця б А-76. На колькі дзён яшчэ ў «аматараў» хопіць цярпення?

З панядзелка журналісцкая «[illegible]ер-група» НАВІНАЎ раз'язджала па запраўках сталіцы. Праездзілі палову запасаў, не знайшлі нічога. Спецыялісты параілі набраць нумар 001 — гэта служба дапамогі аўтамабілістам, а заадно і «бензінавая» даведка. Адзіная на ўвесь горад. Ветлівая дзяўчына паведамляе, што з абеда ў горадзе гандлюе 92-м бензінам толькі адна запраўка — на вуліцы Карла Лібкнехта. На мітынгі з удзелам вядомага нямецкага рэвалюцыянера не прыходзіла столькі пралетарыяў, колькі машынаў мы знайшлі побач з запраўкай. У чарзе стаялі чатыры гадзіны, залілі 20 літраў па 71 тысячы за кожны. Хто хацеў, запраўляўся 76-м пад завязку. Дарэчы, чаргу ніхто не прадаваў ні за якія грошы. Людзі яшчэ не задаволілі сябе, дзе тут думаць пра камерцыю.

Камерцыя пачалася ноччу. Згодна з інфармацыяй пра начны гандаль палівам, у горадзе і на пад'ездзе да яго «зафантаніравалі» яшчэ некалькі заправак — на выездзе на Лагойскую трасу, дзяржаўная на Магілёўскай, запраўка ў Шабанах. На Магілёўскай чарга была страшэнная, і наш пасланец туды проста не сунуўся, а вось у другім месцы яму пашчасціла. Хоць аб'ява сцвярджала, што 92-гі прадаецца толькі па крэдыце, усім жадаючым налівалі каштоўную вадкасць з наварам 10 тысяч — па 80 тысяч за літр. Ашалелыя ад шчасця «аўтааматары» запаўнялі ўсе ёмістасці — канistры, пластыкавыя бутэлькі, ледзь не пустыя кішэні. Але ўжо раніцай гэты «пір падчас чумы» скончыўся — бензін знік, навакольныя вуліцы апусцелі, новыя бензавозы не пад'ехалі.

Учора палівам гандлявалі таксама лічаныя запраўкі. І ўжо за якія грошы! На вуліцы Панамарэнка камерцыйны 92-гі ішоў са свістам за 110 тысяч літр, на вядомай «фінскай» запраўцы за гэтыя грошы налівалі вельмі каштоўны 95-ы. Ён, дарэчы, зараз карыстаецца найвышэйшым попытам. У адсутнасць самага масавага 92-га бензіну 95-ы купляюць і размешваюць яго з 76-м. У прапорцыі 1 да 2 атрымліваецца прыкладна тое ж, што і 92-гі. Але большасць аховраў дэфіцыту проста залівае ў бакі тое, што ёсць — брудны 76-ы, які разборлівыя ўладальнікі іншамарак празвалі аслінай мачой. А што зробіш — даводзіцца ездзіць на гэтай «мачы». Сэрца ўздрыгвае ў такт рухавіку, які не можа пераварыць новае «пойла». Тысячу разоў аблаюць людзі ўладу, паліва, машыну, хоць «мацярыць» трэба саміх сябе — чаго вартыя, тое і атрымоўваем. Кукіш з маслам замест бензіну. ■


Фота IREX/ProMedia

## КАМЕНТАР НАВІНАЎ

Перад пачаткам чарговай бітвы за ўраджай у Мінску зноў знікла аўтамабільнае паліва. Па традыцыі вялізная частка бензіну будзе аддадзеная на ўборачную. Прэзідэнт канцэрна «Белнафтахім» Іван Бамбіза тэрміновa накіраваўся ў Маскву, каб угаварыць расійскіх партнёраў павялічыць пастаўкі нафтапрадуктаў. Беларускі ўрад просіць расійскі бок знізіць цану на нафту. Пакуль што Беларусь купляе тону нафты амаль на 10 долараў даражэй, чым расіяне. На прадпрыемстве «Мінскаўтазапраўка» галоўны інжынер Уладзімір Новік растлумачыў прычыну бензінавага крызісу тым, што ў дзяржавы не хапае валюты, а канцэрн «Белнафтахім» скараціў пастаўкі паліва. Па ягоных словах, дзяржава не дапусціць «такога беспарадку», і пытаннем ужо заняўся прэзідэнт Лукашэнка.

«Мінскаўтазапраўка» стрымлівае продаж паліва, бо пры сённяшнім ажыятажы, мяркуюць, яно наогул можа знікнуць на працяглы тэрмін. Без перабояў адпускаецца бензін толькі па крэдытных картках і для спецаўтатранспарту. У будныя дні імкнуцца забяспечыць бензінам прадпрыемствы, а ў выхадныя — грамадзянаў. Вялізныя чэргі на запраўках Уладзімір Новік патлумачыў адсутнасцю бензіну і на камерцыйных АЗС. Разам з тым, ён не пацвердзіў інфармацыю, што ў бліжэйшы час цэны на паліва павялічацца на 20 працэнтаў. І ўсё ж гэтае павышэнне цэнаў цалкам магчымае.

## ГАРАЧАЯ ЛІНІЯ

### Российские ВВС отправляют передовой отряд в Косово

Российские ВВС приступят к переброске передового отряда миротворцев в Косово 2-3 июля. Всего, согласно плану, утвержденному министром обороны РФ, на аэродром «Слатина» в Приштине будет совершено до 50 самолето-вылетов. В Косово доставят личный состав, вооружение и технику.

*Отдел информации*

### Ствараецца альтэрнатыўная біржа працы

У Мінску ствараецца дабрачынны фонд у падтрымку беспрацоўных і асобаў, якія маюць нізкія даходы. Працоўная назва фонду — «Альтэрнатыўная біржа працы». Па словах заснавальнікаў, галоўная задача новай грамадскай арганізацыі — аказанне дапамогі рабочым і служачым, што маюць невялікія заробкі, дапамога беспрацоўным па працаўладкаванні, выплата штомесячных дапамогаў і спецыяльных стыпендыяў, аказанне бясплатнай юрыдычнай дапамогі і г.д. Грашовыя сродкі фонду фармуюцца з ахвяраванняў фізічных і юрыдычных асобаў. Часовы кантактны тэлефон фонду **284-31-82.**

*Аддзел інфармацыі*

### Купанне на Вячы забароненае

З 29 чэрвеня забаронена купацца ў вадасховішчы Вяча. Прычына — значнае перавышэнне нормы ўтрымання ў вадзе мікробаў, якія выклікаюць цяжкія захворванні. Нагадаем, што тыдзень таму былі закрытыя Камсамольскае возера і Мінскае мора.

*Аляксей ШЫДЛОЎСКІ*



## Нейтрализация в разгаре

**Вика ТУРОВА**

Белорусский директорат лихорадит. В республике распространились слухи, что правоохранительные органы взяли в разработку фактически всех руководителей крупнейших и именитых предприятий страны. В список перспективных кандидатур на отсидку предположительно попали около 50 фамилий.

Основная причина головной боли будущих участников громких судебных процессов — полученные от государства самые разнообразные льготы. Теперь, когда арестован бывший главный экономический идеолог страны Эдуард Эйдин, есть о чем беспокоиться руководству МТЗ, МАЗа, БелАЗа, завода тягачей и Белкалия. Если раньше считалось, что налоговые послабления и возможность беспрепятственно покупать СКВ помогали подниматься заводам, то сегодня это будет называться подрывом экономического благосостояния Беларуси.

Последние громкие события в республике не обошлись без влияния восточного соседа. По некоторым данным, один из ближайших сподвижников президентского управделами Виктор Логвинец был арестован по прямой наводке российских спецслужб, задержавших на территории России несколько фур его компании, нагруженных окорочками.

Директорский корпус – одна из немногих сил в Беларуси, которая может реально повлиять на развитие политической ситуации. И не случайно режим занялся нейтрализацией этой силы именно накануне 20 июля. ■

## Партыяў і арганізацыяў будзе менш

**Альгерд НЕВЯРОЎСКІ**

Сёння апошні дзень, калі, згодна з прэзідэнцкім дэкрэтам, палітычныя партыі, грамадскія арганізацыі і прафсаюзы могуць падаваць у мінюст дакументы на перарэгістрацыю. Праўда, не выключана, што тэрмін падачы статутаў і іншай дакументацыі будзе і працягнуты, але такое рашэнне можа прыняць толькі Лукашэнка.

Як паведаміў нам начальнік мінюстаўскага ўпраўлення па перарэгістрацыі грамадскіх аб'яднанняў Міхаіл Сухінін, па стане на ўчарашні дзень дакументы падалі каля 800 партыяў, арганізацыяў і прафсаюзаў. Па словах сп.Сухініна, да ўвядзення ў дзеянне прэзідэнцкага дэкрэта ў мінюсце было зарэгістравана прыкладна 1.300 аб'яднанняў. Начальнік упраўлення міністэрства юстыцыі лічыць, што нічога дзіўнага ў значным змяншэнні колькасці арганізацыяў, якія хочуць перарэгістравацца, няма. «Проста некаторыя партыі і рухі самаліквідаваліся, а некаторыя па розных прычынах палічылі немэтазгодным падаваць дакументы ў мінюст». Па словах Міхаіла Сухініна, напрыклад, самаліквідавалася партыя Славянскі сабор «Белая Русь», і на яе аснове будзе створаная новая арганізацыя.

Перарэгістрацыю ўжо прайшлі ЛДПБ, партыя жанчын «Надзея», Партыя працы і справядлівасці, незалежны прафсаюз гарнякоў і некаторыя іншыя аб'яднанні і прафесійныя саюзы. Хутка новае рэгістрацыйнае пасведчанне павінна атрымаць і Аб'яднаная грамадзянская партыя, запэўніў нас Міхаіл Сухінін. У стадыі разгляду ў мінюсце знаходзяцца статуты БНФ, БСДП — Статкевіча і БСДГ — Шушкевіча, ПКБ і КПБ, іншых вядомых у Беларусі партыяў. На думку прадстаўнікоў міністэрства юстыцыі, хутчэй за ўсё ўсе гэтыя партыі перарэгістрацыю пройдуць, пытанне толькі ў тым, што працэс праверкі дакументаў можа расцягнуцца на месяц-два. ■

## НАДВОР'Е




**1-2 ліпеня** па рэспубліцы чакаецца пераменная воблачнасць, па асобных раёнах кароткачасовыя дажджы, навальніцы. **На Брэсцкай** вобласці пераважна без ападкаў. Вецер пераменных напрамкаў, 3–8 м/с, пры навальніцах парывы да 12–14 м/с. Тэмпература паветра ўначы +13-+18.

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**435 000**

# Трагедыя на Нямізе

## Улады да апошняга хавалі праўду

**Роўна месяц таму адбылася жудасная трагедыя на Нямізе, аналагаў якой няма ў гісторыі сучаснай Беларусі. І не толькі сучаснай.**

Адгучалі жалобная музыка і чыноўніцкія прамовы, бацькі пахавалі сваіх дзяцей. І ніхто не дачакаўся адказу на пытанне, хто ўсё ж вінаваты.

Улады зрабілі ўсё, каб існавала толькі адна версія ўсяго таго, што адбывалася. Афіцыйная версія. Версія, паводле якой ніхто не вінаваты. Разыходжанняў з гэтай версіяй не мусіла б быць. Але яны ёсць.

Адразу пасля трагедыі разам з афіцыйнай камісіяй па расследаванні падзеяў нядзельнага кашмару была створаная паралельная грамадская камісія. Праваабарончы цэнтр «Вясна-96», які ўваходзіць у гэтую камісію, сабраў некалькі унікальных сведчанняў, якія дагэтуль нідзе не фігуравалі. Гэтыя сведчанні не адпавядаюць ці супярэчаць афіцыйнай версіі.

На месцы трагедыі аператыўна апынуліся журналісты і фотакарэспандэнты, якія пачалі выконваць свой прафесійны абавязак – збіраць інфармацыю і рабіць здымкі. Аднак значную частку каштоўных дакументальных матэрыялаў, фотастужкі міліцыянты знішчалі або канфіскоўвалі адразу, яшчэ на месцы трагічных падзеяў.

Вось што расказаў **фатограф Анатоль**:

— Я начал фотографировать тогда, когда увидел это месиво внутри. Милиция в это время пыталась людей растянуть или разогнать. Я все это снял от начала до конца. Все это длилось минут десять. Я понял, что все это очень серьезно, когда со стороны кафедрального собора гражданские люди начали выносить трупы.

Сначала милиции там было мало, но вскоре появилось больше, и один из них предупредил – не снимай. Я перешел через дорогу, на сторону кафедрального собора, и стал снимать. Пытался зайти внутрь, но это было нереально. Мне удалось снять первые вынесенные жертвы. Но я снял и то, как это все происходило.

Я не знал, погибшие ли это люди, но вид у них был ужасный. Милиция уже была там – пара человек, а потом приехали еще – практически когда все уже закончилось. Не видел, чтобы они помогали пострадавшим. Видел, как помогала эта врач, о которой я потом узнал, что она погибла. Ей просто не повезло – она не знает, что такое толпа, и бросилась помогать туда. Я ее видел в толпе – она пыталась кого-то вытащить. В течение этих десяти минут кого можно было вытащить – вытаскивали, а тех, кто уже там задыхался, – вытянуть было практически невозможно. Милиция в это время сделала кордон, никого не пускали, но было поздно – они не успели. Среагировали, я считаю, они не так, как положено – они были рассредоточены. Им бы сосредоточиться, сгруппироваться в одном месте, чтобы ограничить поток людей, а они этого сделать не смогли.

***— Кто помогал жертвам?***

— Помогали в основном те же пострадавшие, которым удалось выбраться.

***— Оказывали ли милиционеры первую медицинскую помощь пострадавшим?***

— Не видел. Может быть, оказывали, но лично я не видел. Они помогали кому-то оттуда выбраться, но их было мало.

***— Когда на вас снова обратили внимание?***

— Предупредили: парень, не снимай, а потом просто мне разбили фотоаппарат. Это было примерно в 20.35 – 20.40, я успел отснять две пленки по 36 кадров. Одна пленка была в фотоаппарате, вторую у меня забрали. Где-то она есть. Но мне посоветовали ничего по этому поводу не предпринимать, не привлекать вообще внимания к себе.

***— Кто посоветовал?***

— Юрист. Он сказал – лучше не возбуждай вообще никаких дел: тебе это обойдется дороже, тебя сделают козлом отпущения, назовут «нячэсным журналистом». Вообще, поменьше светиться, чтобы поменьше людей знали тебя и где ты работаешь. Я с ним согласен и никаких дел возбуждать не буду.

***— Когда у вас отбирали пленку, применили ли к вам силу?***

— То, что у меня разбили фотоаппарат, я уже считаю применением силы, а так – попали немного дубинкой по бокам – и все. В Америке бы уже был скандал, а у нас это не считается применением силы, и доказать что-либо невозможно. Все видели, но свидетелей нет и не будет.

***— Вы не пошли снять побои или было не очень больно?***

— Было больно, но следов почти не осталось.

***— Были ли еще журналисты, фотографы?***

— На празднике были НТВ, ОРТ – снимали, но почему-то есть съемки событий до и после, а того, что происходило, – нет, хотя я думаю, что они снимали. Я видел фотографа, к сожалению, имени его я не знаю – он снял буквально три кадра, и его побили и запугали, чтобы он не делал этого.

***— Не считаете ли вы, что, снимая трупы, вы нарушили в определенной степени профессиональную или человеческую этику?***

— Нет, я считаю, что не нарушил. Я считаю, что все это нужно публиковать. Например, тот же акт мародерства, который я даже успел снять. Было это так: девушка в переходе задыхалась, и я увидел руки, тянущиеся к ней словно бы для того, чтобы вытаскивать (девушка не могла шевелиться), но тут они сорвали цепочку и исчезли. Я это сфотографировал – фотография должна была быть очень выразительной.

**Павел ЖУК – галоўны рэдактар газеты НАВІНЫ**

— Я лічу, што здымаць тое, што ўжо адбылося, – гэта не парушэньне маральных нормаў. Больш за тое, паказаць, як з гэтымі загінуўшымі дзецьмі абыходзіліся, – трэба. Міліцыя не аказвала дапамогу, а займалася іншым – яны зьбілі хлопца, які займаўся здымкамі падчас трагедыі.

Ён быў у самы момант, калі ўсё гэта пачалося. На яго наляцелі міліцыянты, зьбілі. У яго былі адзнятыя дзьве плёнкі – з самага пачатку і да таго часу, калі п'яныя малойчыкі пачалі з гігіканьнем зрываць з загінуўшых залатыя ўпрыгожваньні. На яго наляцеў АМАП, разьбілі фотаапарат, забралі дзьве плёнкі. Плёнкі забраў у яго капітан і адну засьвяціў, а другую паклаў сабе ў кішэню. У іх недзе ўсё гэта ёсьць.

Гэта паказвае тое, што замест таго, каб выцягваць людзей, яны зрабілі ачапленьне і не дапускалі, каб гэта можна было ўсё адзьняць і запратакалаваць: як гэта было на самой справе, і хто вінаваты ў гэтым. Яны не давалі і нам здымаць. Няма сэнсу хаваць тое, што ўжо адбылося – усё роўна гэта стане яўным. А тое, што яны хавалі ад журналістаў праўду, пацьвярджае, што яны адчувалі сваю віну. Яны не хацелі, каб людзі ведалі, што яны ня могуць дзейнічаць у крытычных сітуацыях, ня могуць забясьпечыць парадак і бясьпеку грамадзянаў; ня могуць нават аказаць першай медыцынскай дапамогі. А журналістаў зьбіваць за тое, што яны адлюстроўваюць факты, якія ўжо адбыліся, – гэта для іх маральна.

Журналісты павінны паказваць тое, што ёсьць – фатаграфаваць, распавядаць пра гэта, нават калі гэта і трупы (паглядзіце афганскую вайну), рабіць гэта праўдзіва і прафесійна, без фальсіфікацыяў.

**Цэзарый ГАЛІНСКІ – карэспандэнт Gazeta wyborcza (Польшча):**

— На месцы здарэння мы стараліся нешта даведацца ад чыноўнікаў, якія з'явіліся на Нямізе. Выйшаў палкоўнік і сказаў, што нічога не адбылося, рана яшчэ нешта гаварыць, прыходзьце зранку і тады, можа, нешта даведаецеся, а мы вам нічога не скажам. У гэты час ужо ад'язджалі апошнія машыны «хуткай дапамогі». Нам казалі: не перашкаджайце працаваць, хоць мы прадставіліся, паказалі пасведчанні. Нас выціснулі. І толькі адзін капітан сказаў: хлопцы, тут сапраўды адбылася трагедыя, загінулі людзі і сапраўды не перашкаджайце нам. Потым да нас выйшлі людзі ў цывільным, здаецца, працаўнікі пракуратуры, і сказалі: чакайце да раніцы, да прэс-канферэнцыі.

На ўсе нашыя пытанні міліцыянты адказвалі: нічога не ведаем, нічога не можам сказаць. Гэты адказ гучаў ад кожнага чалавека ў форме, якога мы сустракалі ў той вечар. Ніхто з іх не хацеў ісці на кантакт, а больш цікавіліся: хто мы такія і чаго мы тут шукаем. Калі мы казалі, што журналісты, то ад нас проста адварочваліся. Адзіны момант прымянення сілы з боку міліцыянтаў быў яшчэ каля станцыі метро: тады амапаўцы нас даволі карэктна, як для амапаўцаў, пачалі адштурхоўваць ад самога пераходу.

Як бачым, сведкі паказваюць, што афіцыйныя ўлады да апошняга імкнуліся замаўчаць сапраўдныя маштабы трагедыі, намагаліся схаваць рэальныя наступствы.

Нам казалі: «Міліцыя рабіла ўсё магчымае». І напэўна ж, шмат хто з іх атрымае ўзнагароды «за Нямігу». Сапраўды – міліцыя зрабіла ўсё магчымае, каб толькі ніхто і ніколі не даведаўся ўсёй праўды. Зрэшты, куды прасцей пабіць фатографа і забраць стужку, чым пад пагрозай для свайго жыцця ў той жа час выцягваць людзей з крывавага месіва. Таму і загінула міліцыянтаў усяго двое – тыя, хто не паспеў навучыцца як след міліцэйскай навуцы, як выратаваць сябе.

У дзяржаўных чыноўнікаў ёсць стандартная фраза, якую яны кажуць кожны раз, калі хочуць нешта «ўмаўчаць»: «Не трэба бударажыць народ». Калі чуеш гэта ў соты раз, пачынаеш падазраваць, што ўсе яны раслі ў адзінай сям'і, дзе бацька казаў гэта шмат разоў на дзень.

Але бударажыць народ трэба. Трэба неяк дастукацца да людскіх сэрцаў, каб нагадаць кожнаму: Няміга можа паўтарыцца. Бо не выродкі, не вычварэнцы і не ворагі тапталіся па дзяўчатах у пераходзе – а нашыя з вамі суграмадзяне. Беларусы. І яны ж займаліся марадзёрствам. Таму чым больш ўлады хаваюць праўду ад народа, тым болей будзе шанцаў, што Няміга ўсё ж паўторыцца. Не абавязкова ў Мінску. І я б не хацеў аказацца ў тым месцы. Бо цяпер ведаю, на што здольныя мае суграмадзяне. І на што не здольныя ўлады, таксама ведаю.

***По матэрыялах праваабарончага цэнтра «Вясна-96» падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ***

Журналісты на месцы трагедыі

Каля падземнага пераходу «Няміга» ўзводзіцца памятны знак

Фота Ул. ШЛАПАКА

**ЗВАРОТ**

## Бацькі звяртаюцца па дапамогу

Нашая дачка, Маша Інькова, загінула ў пераходзе метро на Нямізе 30 траўня. Мы спадзяваліся, што ўлады правядуць расследаванне публічна, з далучэннем усіх сведкаў. Мы хочам ведаць праўду, як загінулі нашыя дзеці. Але пакуль нашыя спадзяванні не спраўдзіліся. Ва ўсіх заявах афіцыйных асобаў ні слова не гаворыцца пра тых, хто арганізаваў смяротнае шоу. Ні слова няма пра «Магну», якая рэкламавала — заклікала дзяцей для палення і спойвання, ні слова няма пра радыёстанцыю «Мир», што смерцямі адсвяткавала сваё двухгоддзе. Усё гэта прыводзіць да таго, што ўсеўладная «Магна» аб'яўляе новыя гульні... Жах ахоплівае нас, калі мы чуем пра чарговыя рэкламныя трукі гэтай фірмы. Мы ўпэўненыя, што ёсць канкрэтныя вінаўнікі смерці нашай дачкі і яе аднагодкаў.

Праўду пра тое, што адбылося ў пераходзе, ведаюць толькі тыя, хто выжыў у гэтай даўцы. Важная кожная дэталь! Калі пачалі падаць людзі? Ці была на іхнім шляху штучная перашкода?

Патэлефануйце **239-31-17**.

***ІНЬКОВЫ Міхаіл Міхайлавіч, Ніна Сцяпанаўна, Аня (старэйшая дачка)***

## Усё яшчэ ў клініцы

**Марат ГАРАВЫ**

Рэабілітацыя 15-гадовай мінчанкі, якая пацярпела падчас трагедыі ў падземным пераходзе станцыі метро «Няміга», будзе праводзіцца ў спецыялізаванай клініцы. Дзяўчына паступіла ў рэанімацыйнае аддзяленне сталічнай бальніцы хуткай дапамогі ў цяжкім стане. Хворая практычна тры тыдні была без прытомнасці, і яе жыццяздольнасць падтрымлівалася з дапамогай апарата штучнага дыхання.

Зараз дзякуючы намаганням урачоў-рэаніматараў агульнасаматычны стан пацыенткі поўнасцю стабілізаваўся. Аднак з-за працяглага кіслароднага галадання, выкліканага моцным і доўгім сціскваннем арганізма, у галаўным мозгу пацярпелай адбыліся незваротныя змяненні. Для аднаўлення вышэйшай нервовай дзейнасці дзяўчына ў бліжэйшыя дні будзе пераведзеная ў неўралагічнае аддзяленне 5-й клінічнай бальніцы Мінска, якое з'яўляецца базай Рэспубліканскага інстытута неўралогіі і нейрахірургіі.

Дынаміка змянення нервова-псіхічнага стану пацярпелай на працягу апошніх дзён выклікае надзею на яе выздараўленне. ■

КАНФЛІКТ

# Новае рабства

*Паважаныя журналісты, спадарства!*

Звярнуцца ў прэсу і да вас мяне вымусіла становішча рабоў, у якіх ператвораны я, члены маёй сям'і і жыхары рэспублікі кіраўніцтвам нашай краіны.

Я зразумела, што мы на самой справе жывём у часы прыгоннага права ў рабаўладальніцкай дзяржаве, у той час як нашыя паважаныя журналісты дзяржаўнай прэсы паўтараюць мне і народу, што мы жывём быццам у цывілізаванай дэмакратычнай дзяржаве. Але вось толькі ў гэтай так званай дэмакратычнай дзяржаве зусім не дэмакратычным шляхам улады прымушаюць мяне жыць з чужым чалавекам.

У 1996 годзе я разышлася са сваім мужам. Развод афармілі, як і трэба па законе, праз суд. У 1997 годзе былы муж пабудаваў кааператыўную кватэру і ў пачатку 1998 года павінен быў засяліцца ў яе. Вось тут і спрацавала прыгоннае права. Дзяржаўныя чыноўнікі раптам убачылі, што я застаюся ў аднапакаёвай кватэры. Ужо другі год нас цягаюць па судах, прымушаюць жыць адной сям'ёй. У мужа ёсць іншая жанчына, з якой ён хоча стварыць сям'ю, але, каб адабраць у мяне жыллё, судом Мінскай вобласці рашэнне суда Смалявіцкага раёна аб скасаванні нашага шлюбу адмененае і накіраванае на новы разгляд. Адзін суд прызнае шлюб несапраўдным, другі — сапраўдным. Так і мучаюць нас ужо больш за два гады.

Я хадзіла больш за два гады па судах, размаўляла з такімі ж, як і я, рабамі і канчаткова ўпэўнілася, што ўладамі Рэспублікі Беларусь робіцца ўсё магчымае дзеля таго, каб адабраць у чалавека апошняе. Паляпшэнне жыллёвых умоваў і дабрабыту чалавека чыноўнікамі ўсіх інстанцыяў і ўсіх узроўняў успрымаецца як самае страшнае злачынства, асабліва судамі, пракуратурай і міліцыяй.

Я гляджу на твары чыноўнікаў гэтых установаў, перакрыўленыя ад злосці з-за таго, што я хачу жыць пачалавечы, і мне страшна за будучыню маіх дзяцей. Я іх нарадзіла і гадавала для таго, каб яны, калі вырастуць, прыносілі карысць дзяржаве. Але, на жаль, дзяржаўных чыноўнікаў ніхто і нішто, акрамя вырашэння іхніх асабістых праблемаў за кошт народа, не цікавіць.

Я звяртаюся праз газету да прыніжаных, зняважаных, пакрыўджаных дзяржчыноўнікамі жыхароў сваёй дзяржавы з заклікам аб'яднацца супраць агульнай бяды — чынавенскага самавольства.

**Таццяна ШЧОГАЛЕВА, г.Смалявічы**

# Мой сын был бы жив, если бы...

В субботний полдень 12 июня 1999 года не стало самого дорогого человека — шестнадцатилетнего сына Саши. Он утонул на озере Мышанка. Смерть его выглядела нелепо — тело сына нашли буквально у берега, где и воды-то было по колено, и при огромном скоплении отдыхающих. Его можно было спасти.

Однако в этой трагедии сыграли свою зловещую роль так называемые субъективные факторы. В данном случае они видятся в захлестнувших наше общество зловещих пороках — равнодушие, безучастность, бездумие как самих людей, так и тех, в чьи руки отдано наше благополучие.

Я не хочу верить в то, что смерть моего сына — это результат рокового стечения обстоятельств. Слишком много она оставила кровоточащему сердцу вопросов.

Почему зоны массового отдыха жителей города находятся, мягко говоря, в безобразном состоянии, особенно те, что расположены возле водоемов? Взять ту же Мышанку, где ежегодно гибнут десятки людей. Думается, в более цивилизованной стране такого безобразия не допустили бы. По крайней мере, людей туда ни в коем случае не допустили бы. На этом озере не организовано дежурство милицейских патрулей. Здесь нет дежурного поста станции скорой помощи, хотя отсюда поступают самые тревожные и частые вызовы. Я имею полное право потребовать к серьезному ответу тех ответственных товарищей и специалистов, кто в день трагедии не выполнил свой профессиональный долг. Мой сын остался бы жив, если бы врач и моторист спасательной лодки были трезвы. Он был бы среди нас, если бы вовремя пришла машина скорой помощи с квалифицированной, снабженной нужными медикаментами бригадой врачей.

Наш Саша улыбался бы солнцу, если бы десятки владельцев легковых автомобилей проявили человеколюбие и милосердие, доставив его в находящуюся поблизости железнодорожную больницу... Это подтверждают многие свидетели, наблюдавшие исход трагедии.

Давайте призовем к ответу безответственных, бессердечных и преступно бездеятельных наших сограждан, от которых зависит наша жизнь. Власть предержащие, очнитесь! Начинайте думать о людях и служить им!

**Виктор БРУЦКИЙ, г.Барановичи**

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

**Паважаная рэдакцыя!**

**Да вас звяртаюцца настаўнікі г.Мазыра. Вялікая просьба патлумачыць у вашай газеце, наколькі дадзены загад адпавядае заканадаўству Беларусі:**

***«Аддзел адукацыі Мазырскага гарвыканкама. Загад №74 ад 14 чэрвеня. На падставе рашэння Гомельскага абласнога выканаўчага камітэта №381 ад 31.05.1999г. Загадваю:***

***1. Выплату адпускных супрацоўнікам установаў адукацыі ажыццяўляць штомесячна. [...]***

***Загадчык аддзела адукацыі Зайцава Г.В.»***

**Гэты загад датычыць тых настаўнікаў, хто пайшоў у адпачынак з другой паловы чэрвеня. Настаўнікі ўваходзяць у катэгорыю нізкааплачваемых работнікаў. Сярэдні памер адпускных складае каля 30-40 мільёнаў рублёў – за 48 дзён адпачынку. Людзі ўскладалі вялікія спадзяванні на гэтую адзіную вялікую для нас суму грошай у годзе. Аднак мясцовыя ўлады вырашылі паступіць з намі ў адпаведнасці з гэтым загадам.**

**Калектыў настаўнікаў.**

Дзеля таго, каб праясніць сітуацыю, якая склалася ў школах г.Мазыра, мы звярнуліся ў міністэрства адукацыі. Там нам перш за ўсё нагадалі змест артыкула 96 Кодэкса законаў аб працы. У адпаведнасці з гэтым артыкулам, уся сума адпускных мусіць выплачвацца не пазней, чым за дзень да пачатку адпачынку. Так што паводле Кодэкса праўда на баку настаўнікаў.

Тым не меней, у міністэрстве адукацыі нам паведамілі, што фінансаванне школаў вядзецца з мясцовых бюджэтаў – і калі ў гэтым бюджэце няма грошай, то тут роднае міністэрства нічым дапамагчы настаўнікам не можа. Аналагічныя выпадкі – як і выпадкі затрымкі выплаты заробку – ужо здараліся ў розных раёнах Беларусі.

Тэарэтычна мы можам параіць настаўнікам звярнуцца ў суд і патрабаваць, каб з імі разлічваліся на падставе Кодэкса законаў аб працы. Аднак няцяжка прадказаць вынік такога судовага працэсу. Нават калі раптам суддзя западдзецца прынцыповы і вынясе рашэнне на карысць настаўнікаў, то відавочна, што гарадскія ўлады не паспяшаюцца гэтае рашэнне выконваць. Тым болей, што грошай усё роўна няма і, хутчэй за ўсё, не прадбачыцца.

***Падрыхтаваў Расціслаў ПЕРМЯКОЎ***

# Дзяржава ў нас багатая, народ — бедны

*Паважаная рэдакцыя!*

Звяртаюся да Вас з настойлівай просьбай — у сваёй газеце ўзніміце пытанне аб прыватызацыі на Беларусі. Гэтае пытанне патрабуе многіх публікацыяў. Упэўнены, што народ гэтую ідэю падтрымае цалкам. Прыватызацыя прамысловых аб'ектаў у нас цалкам праваленая. І адрадзіць яе не ўяўляецца магчымым.

А вось зямля! Гэтае нацыянальнае багацце належыць усяму народу Рэспублікі Беларусь. На кожнага жыхара (грамадзяніна РБ) прыходзіцца па некалькі гектараў. За выключэннем невялікай колькасці зямлі, прыватызаванай дачнікамі, і той, што знаходзіцца пад прысядзібнымі ўчасткамі, уся астатняя зямля належыць дзяржаве, калгасам і саўгасам. Прэзідэнт Лукашэнка рэферэндумам замацаваў гэтае права на карыстанне за ўладнымі структурамі. Гэта няправільна. Нават СССР прызнаваў права ўсенароднай уласнасці на зямлю. Уся тэрыторыя Беларусі павінна быць падзеленая (у тым ліку і прыпамежныя зоны) на колькасць зямельных паяў, роўных колькасці грамадзянаў Беларусі. А землі, якія трапілі ў пай, хай выкупіць дзяржава (калгас, саўгас) у пайшчыка адначасова альбо пры дапамозе акцыяў, частка прыбытку ад якіх будзе перадавацца пайшчыку. Вось і ўвесь механізм прыватызацыі зямлі. Чыгунка, адміністрацыйныя будынкі, дарогі, рэкі, лясы, запаведнікі і г.д. зараз маюць сваіх гаспадароў, якія атрымліваюць прыбытак і ім аднаасобна распараджаюцца. Вось гэта і з'яўляецца падставай для таго, каб народ запатрабаваў задавальнення сваіх правоў.

**В.А.М.**

СВЕДЧАННЕ

# Камуналка

**Валерый ШЧУКІН**

Днямі да мяне як да праваабаронцы звярнулася жыхарка Гомеля Н.П.Самсоненка са скаргай на свайго суседа, праваслаўнага святара айца Андрэя, свецкае імя — Андрэй Танканог. Нэлі Пятроўна прыйшла проста з адміністрацыі прэзідэнта, дзе, па яе словах, не толькі не паспрабавалі дапамагчы, але нават не захацелі выслухаць.

А скардзіцца Самсоненка на духоўнага настаўніка царквы Іконы Іверскай Божай Маці, айца Андрэя, з якім воляй лёсу аказалася суседкай па доме, за парушэнні яе правоў. Андрэй Танканог стварыў, па яе словах, такія ўмовы, што жыць з ім у доме стала немагчыма. Сярод мноства прыкладаў уціску, дакументальна пацверджаных Нэлі Пятроўнай, і такі: яна не можа карыстацца газам, бо выцяжная труба апынулася ніжэй надбудованага святаром другога паверха над сваёй паловай дома. Прадстаўлены фотаздымак сведчыў аб гэтым увачавідкі. Самае дзіўнае ў гэтай справе, што Н.Самсоненка не атрымала ніводнага адказу на ўсе свае звароты ў епархіяльным упраўленні як Гомеля, так і Мінска.

Знайсці праўду ў «кухонным» супрацьстаянні цяжка. Царкоўны начальнік Андрэя Танканога настаяцель царквы Іконы Іверскай Божай Маці айцец Георгій палымяна выступіў у абарону свайго святара. З ягонай «званіцы» карціна выглядала абсалютна супрацьлеглым чынам: Н.Самсоненка і яе сын тэрарызуюць свайго суседа, добрапрыстойнага бацьку сям'і, які мае на руках дваіх дзяцей і састарэлага бацьку, інваліда вайны.

Магчыма, гэта і так. Толькі вось нязвыкла бачыць святара ў якасці ўдзельніка «хатняй» вайны. ■

КАМЕНТАР НАВІНАЎ

**Мы публікуем гэтую інфармацыю, бо яна ілюструе вельмі важную праблему нашага грамадства — жыллёвую. На вялікі жаль, мноства людзей вымушаныя жыць у камуналках, і пачатак трэцяга тысячагоддзя не абяцае паляпшэння. Камунальныя ўмовы лёгка ператвараюць добрых людзей у непрыяцеляў.**

**Канечне, добра, калі людзі здольныя вырашаць хатнія канфлікты мірам. Але заўжды знойдзецца мноства прычынаў, якія могуць хутка сапсаваць адносіны. У нас у краіне няма яснай праграмы жыллёвага будаўніцтва, рассялення сем'яў з камуналак. Купіць дом ці кватэру сёння вельмі няпроста. А хатнія канфлікты проста скарачаюць жыццё. Усё залежыць ад жыллёвага будаўніцтва, а яно залежыць ад урадавай палітыкі.**

НАЗІРАЛЬНІК




Фота Ул.ШЛАПАКА

# Смага

**Аляксей ШЫДЛОЎСКІ**

Лета. Спякота. Па пыльных шумных вуліцах мікрараёнаў павольна крочаць мінакі, праклінаючы сонца, якое выцягвае апошнія сілы, вымушае цела пакрывацца потам, а вочы — шукаць выратавальныя цянёк, хоць бы на хвіліну, на паўхвіліны. Вусны хутка перасыхаюць і патрабуюць вады, выратавальнай вільгаці. Адзінае, што дапамагае ў такі час, — бутэлька халоднага газіраванага напою, на якую не пашкадуе грошай нават самы вялікі скнара. СМАГА перамагае ўсе іншыя жаданні.

Што гэтым летам прапануюць для нашага з вамі выратавання беларускія вытворцы безалкагольных напояў?

Паўлітровая пляшка лімаnаду вытворчасці, напрыклад, мінскіх завода безалкагольных напояў і АП «Крыніца», «цягне» на 50-70 тысяч рублёў з улікам шкляной тары, у той жа час бутэлька 0,25 напояў кампаніі «Кока-Кола Амаціл» («Спрайт», «Фанта», «Кола») каштуе 70 тысяч. Значна даражэй каштуе прадукцыя вышэй згаданай кампаніі і ў больш аб'ёмных пластыкавых бутэльках: 177 тысяч «Кока-Кола» супраць 102 тысяч за літр цудоўнага «Фруктовага дажджу» кампаніі «Вейнянский родник».

Тым не менш, нягледзячы на тое, што айчынныя напоі зусім не саступаюць па смакавых якасцях замежным, а па кошце ў 1,5-2 разы танней, людзі даволі часта ўсё ж вырашаюць набыць «імпарт». Чаму? Першая з прычынаў — стэрэатып, які дасюль з цяжкасцю пераадольваецца ў беларусаў: сваё — другі гатунак, няякаснае.

Другая прычына ўяўляецца больш значнай. Напоі кампаніі «Кока-Кола Амаціл» знаходзяцца ў спецыяльных лядоўнях, прадастаўленых кампаніяй усім дзяржаўным кропкам гандлю, айчынныя ж напоі стаяць на паліцах, награваюцца і страчваюць з-за гэтага смак і асноўную якасць, якая патрабуецца ад іх, — танізуючую здольнасць. Інакш кажучы, цёплы ліманад не так спатаяе смагу.

А найбольш «хадавы» тавар у гэты перыяд, па словах гандляроў, — газіраваная мінеральная вада. Недарагая, у межах 100-120 тысяч рублёў за 1,5 літра, разнастайная (ёсць з вадарамі рознай садавіны), апошні яна разбіраецца найхутчэй. Асаблівых поспехаў на «мінеральнай» ніве дабіўся Мінскі завод безалкагольных напояў, кампанія «Дарыда», прадукцыю якіх распаўсюджвальнікі бяруць на продаж найчасцей.

Увогуле ж, крамы не пакутуюць ад адсутнасці напояў, і памерці ад смагі нам яўна не дадуць. Так што піце на здароўе! ■

© НАВІНЫ. Спасылка на газету НАВІНЫ абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі. Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 996
Выдаецца з 16 студзеня 1998 г. В.а. галоўнага рэдактара і заснавальнік Павел Жук. Выдавец – рэдакцыя газеты НАВІНЫ. Адрас для карэспандэнцыі: 220034, г. Мінск, вул. З.Бядулі, 6-47. Тэл./факс: 236-89-40.
E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана на паліграфічнай фабрыцы «Чырвоная зорка» (г.Мінск, 1-шы Загарадны завулак, 3) Заказ 565 Нумар падпісаны ў друк 29/06/99 (15:00) Наклад – 17.570